# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 13 (578) ГОД XII 26 САКАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### У СПРАВЕ МУЗЕЯ

4 сакавіка Мікола Самоцік — намеснік старшыні ГП БГКТ і адначасова старшыня грамадскага камітэта пабудовы этнаграфічнага беларускага музея адбыў нараду з прадстаўнікамі ГРН-у і ГС-у ў Белавежы, на якой абмяркоўвалася лакалізацыя гэтага музея. Вынікам яе было апрацаванне прашэння да Ваяводскай рады нарадовай адносна прызначэння бюджэту на пабудову музея і зацвярджэння прапанаванай лакалізацыі яго.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ

10 сакавіка дэлегацыя бацькоўскага камітэта (на чале са старшынёй Яфімам Гіжэўскім) беларускага ліцэя ў Бельску разам з сакратаром ГП БГКТ Уладзімірам Юзвюком была прынята Людвікам Ахоцкім — намеснікам старшыні прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. Дэлегацыя прадставіла неабходнасць пабудовы інтэрната для Беларускага ліцэя. Людвік Ахоцкі забавязаўся дабівацца ад ўлад увядзення гэтай інвестыцыі ў план і паабяцаў, што калі знойдуцца нявыкарыстаныя фінансы (а гэта здараецца), дык будзе намагацца, каб яшчэ ў канцы гэтай пяцігодкі распачаць пабудову вялікага інтэрната ў Бельску не толькі для навучэнцаў беларускага ліцэя, але і для іншых школ. У гэтым пасяджэнні ўдзельнічаў Станіслаў Роман — намеснік куратара Беластоцкай акругі асветы і Ільяш Федаровіч — прадстаўнік аддзела унутраных спраў Прэзідыума ВРН.

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ КУЛЬТУРЫ

11 сакавіка камісія культуры ГП на сваім пасяджэнні абмеркавала тэматыку на спатканне з прадстаўнікамі аддзела культуры Прэзідыума ВРН і прадстаўнікамі камісіі культуры ВРН.

Многа ўвагі прысвяцілася на гэтым пасяджэнні справам арганізавання нарад беларускай інтэлігенцыі, асабліва вясковай інтэлігенцыі, каб пры дапамозе яе шырэй разгортваць дзейнасць БГКТ. Вялікая тут роля адводзіцца настаўнікам, якія працуюць у беларускім асяроддзі.

Пашана да роднай мовы, клопаты аб яе чысціні належаць да вельмі сур'ёзных спраў. У сувязі з гэтым неабходна ініцыяваць і арганізоўваць гурткі беларускага слова ці гурткі любіцеляў беларускай мовы (справа не ў тым, як яны будуць называцца, але ў тым, каб у гэтай дзялянцы нешта рабілася). Гарадскі аддзел у Беластоку ўжо зрабіў першыя крокі ў ажыццяўленні гэтай думкі. Камісія культуры даложыць максімум сваіх намаганняў у стварэнні такіх гурткоў ці аб'яднанняў.

Да другіх спраў, якімі займалася камісія культуры належаць: а) вызначэнне тэрміну падрыхтоўкі новага рэпертуару (20.IV.) для эстрады «Лявоніха», б) вызначэнне тэрміну для хораў БГКТ (1.XI.) да падрыхтоўкі рэпертуару, з якім выступяць на пачатку лістапада ў аглядзе. Пастаноўлена, што агляды драмгурткоў з беларускім рэпертуарам адбудуцца ў паветах у красавіку, а цэнтральны агляд — ў маі.

Аб правядзенні шматлікіх конкурсаў, аб сумах узнагарод і аб датах гэтых конкурсаў паінфармаваў камісію культуры кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Мікола Лобач.

(мх)

ВЯСНА. Фотаэцюд Ул. Паўлючука



## ВАЖНАЕ РАСПАРАДЖЭННЕ

Апублікаванае ў папярэднім нумары «Нівы» распараджэнне Міністра асветы і вышэйшай адукацыі ПНР у справе ўвядзення ў навучанне гісторыі Польшчы ў пачатковых школах з няпольскай мовай навучання або з навучаннем роднай мовы як прадмет дадатковай тэматыкі з гісторыі данай нацыянальнай меншасці забавязвае не толькі нашых настаўнікаў, але ў нейкай ступені і БГКТ у аказванні адпаведнай дапамогі ў яго рэалізацыі. А трэба сказаць, што заданне гэта даволі складанае з увагі на недастатковую падрыхтаванасць кадраў да навучання гісторыі Беларусі, недахоп падручнікаў, літаратуры, гістарычных карт і прапанаванае спалучэнне тэм з гісторыі абодвух народаў без павелічэння колькасці гадзін гэтага прадмету. Здаецца, што асноўнымі дапаможнікамі ў навучанні павінны быць падручнікі гісторыі Польшчы і Беларусі. Апошніх нашыя школы маюць мала. У іх інтэрпрэтацыя такіх тэм, як першыя кніжкі на беларускай мове, супольная барацьба польскіх і беларускіх мас за сацыяльнае вызваленне і шмат іншых аднолькавая, не выклікае засцярог і можа лягчэй вучням давацца. Але такія тэмы, як паходжанне ўсходніх славян, увядзенне хрысціянства, раздзелы Польшчы, уз'яднанне Заходняй Беларусі распрацаваны часта амаль супярэчліва і спалучэнне іх будзе сапраўды складанае. Пакуль такое спалучэнне праблематыкі ўладзіцца, неабходна будзе, здаецца, правесці метадычныя канферэнцыі навучання гісторыі.

З чаго ў гэтым выпадку пачаць зараз, каб выканаць распараджэнне Міністэрства і асягнуць тыя выхаваўча-дыдактычныя тэмы, якія пастаўлены ва ўступных заўвагах гэтага дакумента?

Трэба выкарыстаць спачатку ўсе тыя матэрыялы, якія апублікаваны былі ў выдавецтвах ГП БГКТ, і якія кожная школа мае. Да распрацоўкі тэмы аб Скарыне раім выкарыстаць артыкул А. Чэчугі «Георгі Скарына» на 121 стар. Беларускага календара на 1967 год. Аб К. Каліноўскім пісаў 2 разы А. Баршчэўскі — у «Навукова-літ. зборніку 1961 г.» у артыкуле аб публіцыстычна-літаратурнай спадчыне рэвалюцыянера — стар. 61 і ў кніжцы «Мой родны кут» — абразкі з жыцця К. Каліноўскага — стар. 72. Аб удзеле беларусаў, палякаў і рускіх у студзеньскім паўстанні пісаў Ф. Берніковіч у «Навуковым зборніку» 1964 г. — стар. 61 і В. Склубоўскі — «Студзеньскае паўстанне на Беласточчыне» ў бел. календары на 1963 г. Барацьба беларускага народа за сацыяльнае вызваленне ў міжваенны перыяд знайшла адбіццё ў раздзеле «50 год Вялікага Кастрычніка» у бел. календары на гэты год, у кніжцы «Мой родны кут».

У тых жа кніжных выданнях ГП БГКТ настаўнік знойдзе матэрыялы да распрацавання яшчэ шматлікіх тэм, якія выступаюць ва ўспамянутым распараджэнні. Нямала падобнай праблематыкі замяшчала на працягу сваіх 10 год «Ніва», але газеты школы найчасцей не камплектуюць і таму з гэтых матэрыялаў скарыстаць не змогуць.

Добра разумеючы ўсе цяжкасці рэалізацыі распараджэння, зварочваемся да ўсіх зацікаўленых настаўнікаў з запытаннем: у чым зараз нашае Таварыства павінна аказаць дапамогу?

Сакратар ГП БГКТ
Ул. Юзвюк




### НОВЫ ДЗЕНЬ

З'явіся, новы дзень, пачаткам новым,
З світальнай запаведнай чысцінёй,
З забытай песняй, з халадком сасновым,
І юны свет адкрый перада мной!

Травой і лесам узышла дарога,
Травой і лесам выспела ў цішы.
Я ведаю: ні сум, ні боль душы
Не вернуць мне, не вернуць мне нічога

З таго, што некалі бяздумна змята,
Зняважана пад дымнай сінявой,
Таго, што ворагам маім узята
У прыгажосці, у любві жывой.

З вышынь гадоў, з жыццёвага
ўзвышэння
Цяпер гляджу ў стамлёную душу
І забыццё — умовы ўваскрашэння —
Ў цябе, наш век грымотны, не прашу.

Бяру з сабой нялёгкія дарогі,
Сляды пакут, што не датлелі там,
Бяру з сабой бяссонныя трывогі,
А юны свет — я юным перадам.

Аляксей Пысін



увага! За тыдзень

## Памочнік палкоўніка Абеля

Імя легендарнага савецкага разведчыка Рудольфа Абеля вядомае нашым чытачам. У мінулым годзе друкавалі мы яго ўспаміны. У гады вайны ён знаходзіўся ў самым логаве фашызму, атрымліваючы звесткі велізарнай важнасці.

Адным з верных памочнікаў Абеля быў Гардон Лонсдэйл, разам яны працавалі і пасля вайны ў Злучаных Штатах Амерыкі. У 1954 годзе Лонсдэйл быў пераведзены ў Англію, дзе выканаў рад адказных заданняў. У 1961 годзе яго арыштавалі англійскія ўлады і прыгаварылі да дваццаці пяці гадоў турэмнага зняволення. Аднак праз тры гады Лонсдэйлу ўдалося выйсці на волю. Аб сваёй дзейнасці ён напісаў кнігу, выдадзеную ў Лондане.

Аўтабіяграфія Лонсдэйла была перакладзена на рад моваў. За тыдзень мы пачнем друкаваць яе скарочаны пераклад.



# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ У ФРАНЦЫІ

Аб выніках выбараў у Францыі пісалі і пішуць усе газеты свету. Такое вялікае зацікаўленне было выклікана перад усім тым, што іх вынік быў неспадзяванкай. Памыліліся амаль усе, бо абапіраліся яны на выніках двух магутных Інстытутаў грамадскай думкі, якіх электронныя машыны не прадбачвалі, што ўрадуючая партыя страціць аж 40 мандатаў. Згодна сцвярджаюць усе каментатары, што найбольшай перамогі дабілася Камуністычная партыя Францыі. Гэта не толькі вынік арганізацыі і дысцыпліны партыі. Крыніцы сілы французскай кампартыі глыбейшыя. Справа ў тым, што КПФ бярэ пад увагу ўнутраныя змяняючыеся грамадскія ўмовы ў Францыі, адначасова распаўсюджваючы ідэю аслаблення напружання і міру ў Еўропе.

Французскія выбары паказалі, што лозунг антыкамунізму ў Заходняй Еўропе страціў сваю атракцыйнасць. Спробы манціравання антыкамуністычнага фронту ў большасці выпадкаў не ўдаліся. Наадварот. Прыклад Францыі сведчыць аб тым, што палітычная глеба ў заходняй Еўропе дазрэла да супрацоўніцтва між левымі партыямі.

У французскіх выбарах важнае і тое, што ўрадуючая партыя пацярпела ў выбарах толькі з погляду на ўнутраную сацыяльную палітыку. Калі б заграпічная палітыка дэ Голя не была такой рэалістычнай, паражэнне яго партыі было б несумненна большае.

Вынікам выбараў, здаецца, будзе, што зрэшты ўжо зарысоўваецца, узнікненне двух кааліцый: капіталу і левых.

### АБСТРЭЛ БАЗЫ Ў ДАНАНГУ

Паўднёвав'етнамскія патрыёты абстралялі буйную амерыканскую ваеннапаветраную базу ў Данангу, абрушыўшы на яе агонь са 140-міліметравых гармат. Знішчана некалькі самалётаў, пашкоджана ўзлётна-пасадачная паласа. 42 амерыканскія і паўднёвав'етнамскія ваеннаслужачыя забітыя і каля 100 паранена. Некаторыя агенцтвы падаюць, што партызаны прымяняюць лёгкую, пераносную ракетную зброю.

### ЗАКЛІК Р. КЕНЕДЗІ

Сенатар Роберт Кенедзі зноў заклікаў урад ЗША спыніць бамбардзіроўкі Паўночнага В'етнама з тым, каб садзейнічаць мірным перагаворам. Выступаючы перад студэнтамі ў штаце Аклахома, Кенедзі заявіў, што ў яго ёсць «некаторыя разнагалоссі з прэзідэнтам Джонсанам адносна яго в'етнамскай палітыкі».

### СВЯТЛАНА АЛІЛУЕВА ЗА ГРАНІЦАЙ

Агенцтва ТАСС у сувязі з многімі пытаннямі журналістаў пацвярджае, што дачка Сталіна Святлана Алілуева зараз знаходзіцца за граніцай. У канцы 1966 года яна атрымала візу на выезд з Савецкага Саюза ў Індыю, каб пахаваць прахі свайго мужа грамадзяніна Індыі, які памёр ў СССР. Як доўга Святлана Алілуева застанецца за граніцай, — сцвярджае камюніке ТАСС, — гэта яе прыватная справа.

А. К.

## БССР

### ВЫБАРЫ

У нядзелю, 12 сакавіка адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У выбарах прынялі ўдзел 99,97 працэнта упаўнаважаных да галасавання г.зн. 5.545.739 асоб.

Супроць кандыдатур галасавала 5.683 галасуючых выбаршчыкаў, г.зн. 0,1%, дзесяць галасоў прызнана няважнымі. У выніку галасавання выбраны 421 дэпутат, у тым ліку 153 жанчыны. Беспартыйных дэпутатаў 129. Варта зазначыць, што 335 нававыбраных не з'яўляліся дэпутатамі папярэдняга Вярхоўнага Савета БССР.

### ПЯЦЬ

На вялікім Міжнародным прамысловым кірмашы ў Лейпцыгу (ГДР) уручана сто залатых медаляў за найлепшую тэхніку. У іх ліку Беларусь атрымала пяць залатых медаляў.

### НЕЗДАВАЛЬНЯЮЧА

Апублікавана пастанова ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў Беларускай ССР — **«Аб нездавальняючым выкананні плана будаўніцтва прадпрыемстваў будматэрыялаў і будіндустрыі ў 1966 годзе і мерах па паспяховаму асваенню сродкаў і ўводу ў эксплуатацыю магутнасцей гэтых прадпрыемстваў у 1967 годзе».**

### КАЛІНОЎСКАГА

Беларуская маладзёжная газета **«Чырвоная змена»** апублікавала пісьмо мастака Д. Маслава, які ставіць пастулат арганізацыі музея Кастуся Каліноўскага. Маслаў збірае матэрыялы з Беларусі, Літвы, Расіі, Польшчы. З яго пісьма даведваемся, што да вайны быў выпушчаны беларускі фільм «Кастусь Каліноўскі». Зараз у Мінску адна з вуліц названа імем героя Беларусі.

Ініцыятыва арганізацыі музея Каліноўскага заслугоўвае ўсебаковай увагі і з нашага боку. Дзейнасць легендарнага «Кастуся» сціслa вяжацца з гісторыяй нашай Беласточчыны, тут ён нарадзіўся. У Беластоку адну з цэнтральных вуліц ужо названа яго імем. Існуе вялікі тэматычны матэрыял, на жаль, ніхто ў нас не займаецца сістэматычным зборам яго. Прэтэнзію гэту кірую, перад усім, у адрас кіраўніцтва Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку.

### ЗНАМЯНАЛЬНАЕ

**«— Калі некалькі гадоў назад мы радаваліся проста таму, што ў нас ёсць таленты, то сёння мы гаворым аб тым, якім павінен быць гэты талент, гаворым аб тым, што пасіўны талент — гэта тое ж рамесніцтва»,** — сказана на апошнім сумесным сходзе секцыі прозы і секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### У ГЛЫБІ

У глыбі Беларусі, над Бярэзінай ля Бабруйска адкрыты мінеральныя воды і лячэбныя гразі, якія нягоршыя ад адэскіх. Прытым лячэнне ва ўмераным клімаце Беларусі дае лепшыя вынікі, чым пад неміласерным сонцам Крыма.

Будуецца тут санаторыя, у якой зможа лячыцца каля шасці тысяч асоб у год. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПОЛЬШЧА — ГДР

15 сакавіка ў Варшаве падпісаны дагавор аб Дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Польшчаю і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай. Абодва дагаварыўшыеся бакі ўзгоднілі, што ў выпадку ўзброенага нападу з боку заходненямецкага мілітарызму, ці з боку нейкіх іншых дзяржаў паспешаць з усебаковай магчымай дапамогай адна другой. Абедзве дзяржавы пацвердзілі непарушнасць польскай дзяржаўнай мяжы на Одры і Нысе Лужыцкай і мяжы паміж ГДР і Заходняй Германіяй, а таксама сцвердзілі, што Заходні Берлін лічаць асобнай палітычнай адзінкай.

Прамаўляючы пасля падпісання дагавору Уладзіслаў Гамулка сказаў:

«Народная Польшча ніколі не згодзіцца на тое, каб сваім заходнім суседам мець мілітарыстычную Германію. Існаванне і развіццё ГДР як сільнай сацыялістычнай дзяржавы нямецкіх рабочых і сялян з'яўляецца не толькі інтарэсам нямецкага народу, але таксама найглыбейшым інтарэсам польскага народу». Гаворачы аб стратах, якія пацярпеў нямецкі імперыялізм у выніку II сусветнай вайны, прамоўца заявіў: «Ліквідацыя гэтага стану з'яўляецца немагчымай не толькі з увагі на інтарэсы дзяржаў Варшаўскага пагаднення, для якіх бяспека ГДР з'яўляецца іх уласнай бяспекай, але таксама і таму, што паварот Германіі да ролі вялікай імперыялістычнай дзяржавы, якой была яна ў міжваенны перыяд, не ляжыць у інтарэсе ўсіх заходніх дзяржаў».

### ДА БАЛГАРЫІ

На запрашэнне ЦК Балгарскай камуністычнай партыі і Рады Міністраў БНР у першай палове красавіка паедзе ў Балгарыю з афіцыйным візітам партыйна-ўрадавая дэлегацыя Польшчы на чале з Уладзіславам Гамулкам і Юзэфам Цыранкевічам. У час пабыўкі дэлегацыі ў Софіі прадбачваецца падпісанне новага дагавору паміж Польшчай і Балгарыяй.

### ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

Аб'яўлена, што Дні асветы, кніжкі і прэсы ў гэтым годзе адзначацца будуць ад 3 да 21 мая.

### ПА ПРАФЕСІЮ Ў АРМІЮ

У інжынерна-будаўнічых адзінках Войска Польскага для моладзі, якая добраахвотна ўступае ў 5-гадовую вайсковую службу, створана апошнім часам дадатковая магчымасць здабыцця рознага роду прафесій — аператара цяжкіх і лёгкіх будаўнічых машын, механіка машын, зваршчыка, электраманцёра, муляра, тынкара, механіка водна-каналізацыйнай інсталяцыі і іншыя. Сістэма прафесіянальнага навучання ў арміі абапіраецца на праграме двухгадовых прафесіянальных школ. Добраахвотнікаў прымаюць і інфармуюць Раённыя вайсковыя камендатуры (ВКР).

### АЎТАМАТЫ

Быдгашчская фабрыка спажывецкай прамысловасці пабудуе ў Быдгашчы поўнасцю аўтаматызаваную пякарню. Будзе яна працуючым экспанатам. Замежныя купцы будуць магчы на месцы пераканацца ў якасці машын і заказаць іх ва ўспамянутай фабрыцы. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ТЭАТРА

18 сакавіка — гэта свята работнікаў тэатраў. Беластоцкія тэатры — дзіцячы і драматычны — ўрачыста адзначылі гэты дзень. Дзяржаўны драматычны тэатр ім. А Вянгеркі выступіў з новай прэм'ерай п'есы польскага выдатнага пісьменніка Ярaслава Івашкевіча — «Лета ў Натан». Дзіцячы тэатр «Свершч» сваё свята правёў сярод школьнікаў агульнаадукацыйнага ліцэя ў Сухаволі на Дуброўшчыне.

### ВЫСТАЎКА

У Беластоцкім музеі рэвалюцыйнага руху адкрыта выстаўка пад лозунгам «За нашу і вашу свабоду». Ілюструе яна барацьбу палякаў за свабоду Іспаніі.

### ВАЕННЫЯ «ПАДАРУНКІ»

Вайна пакінула нам своеасаблівыя «падарункі»: міны, снарады, бомбы і гранаты. У мінулым годзе падляшская часць Войска унутранай аховы раззброіла 14 артылерыйскіх снарадаў, 6 ручных гранат, 3 бомбы, 4 мінамётныя снарады, 1 міну і 7 штук іншага роду ўзрыўчатак. Гэтыя ваенныя «падарункі» вельмі небяспечныя і калі б здарылася каму-небудзь знайсці іх, трэба паведаміць міліцыю або войска. У ніякім выпадку нельга дакранацца да іх самому.

### БЕЛАЯ НЯДЗЕЛЯ

Члены Саюза вясковай моладзі, якія вучацца ў Беластоцкай медыцынскай акадэміі, часта выязджаюць у вёскі, дзе бясплатна прымаюць хворых. Нядаўна пабывалі яны ў вёсках Мастаўляны, Рэдулі, Чарэўкі, Клевінова, Лапухоўка і Чорна Весь Касцельная. Прынялі там 256 пацыентаў. Акцыяй «Белая нядзеля» кіруе акадэміцкае праўленне СВМ супольна з ваяводскім праўленнем гэтай арганізацыі.

### ТРЫВОГА НАД БУГАМ

Вада ў Бугу ў раёне Сямяціцкага павета ўзнялася на 2 метры над бяспечным узроўнем. Пад вадой аказалася 2500 гектараў лугоў і палёў. 10 дамоў і гаспадарскіх будынкаў вада адрэзала ад свету. Сямяціцкі супрацьпаводкавы камітэт добра падрыхтаваўся да сваёй працы і паспяхова змагаецца з паводкай.

### ПЛЕНУМ ПК

Нядаўна адбылося ў Дуброве пленарнае пасяджэнне Павятовага камітэта ПАРП. Яго ўдзельнікі правялі ацэнку гаспадаркі сенажацямі, якія ў Дуброўскім павеце займаюць амаль 34 працэнты агульнай плошчы. За мінулыя 6 год праведзена меліярацыя звыш 5 тысяч гектараў лугоў. Аднак астаецца яшчэ 2 разы столькі незмеліяраваных сенажацяў, асабліва ў дрыгвістай даліне ракі Бебжы. У 1967 і 1969 гадах прызначаецца на загаспадараванне сенажацяў 14 мільёнаў 500 тысяч злотых. Працы будуць сканцэнтраваны ў раёне вёсак Сідра, Зайкоўшчына, Валькушанка, Нядзведзіца, Бжазоўка, Сухая Гара, Бобра Вялікая, Падастравок, Верхняя Бебжа і Нурка.

### ЖАНОЧАЯ РАДА

У Орлі, першая ў Бельскім павеце, заснавалася грамадская рада жанчын. Яе старшынёю стала Анна Весялоўская. (вр)




NIEDZIELA 26.III.

9.50 PKF; 10.00 Kino Ptys; 11.00 „Malarstwo Rembrandta" — program z Muzeum im. Puszkina (Moskwa); 11.35 „Czarownice"; 12.00 Dziennik; 12.15 „Kwiaty, wiosenne kwiaty" — program muzyczno-baletowy; 12.55 „W starym kinie"; 13.55 „Piórkiem i węglem"; 14.20 „Kotek Protek"; 15.10 „Ludzie i zdarzenia"; 15.25 „Wielka gra"; 16.15 „Deszczowa suita"; 17.00 Teatr Niedzielny: „Wdowa po pułkowniku" J. Smuul; 18.00 „Warszawa, ja i Ty"; 18.30 Mistrzostwa Europy w gimnastyce mężczyzn; 20.00 Dobranoc; 20.10 Dziennik; 20.40 „To jest twój nowy syn" — film tv pol.; 21.05 „Czarne na białym" — „Szachownica w parze" II program muzyczno-baletowy; 22.00 „Rio Bravo" — film fab. USA.

PONIEDZIAŁEK 27.III.

11.00 „Rozkosze wędkarstwa" — film fiński; 11.30 „Czarodziej z Bagdadu" — film fab. USA; 13.00 „Przemiany"; 13.25 „Studio Uno" — tv program rozrywkowy wł.; 14.20 Kino Krótkich Filmów; 14.45 „Dzielnica" — rep. film. 15.00 Teatr Młodego Widza; 15.50 „Zmagania hokejowe tytanów" — film dok. z Mistrz. Św. w jeździe fig. na lodzie; 16.15 „Dyngus, dyngus" — program muzyczny; 16.45 Teatr TV: „Zbrodnia przy ulicy Lourcine"; 17.50 Hokej: Czechosłowacja — Szwecja; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Profesor Tutka wyjaśnia sens tajemniczego rysunku" — tv film pol.; 20.15 „Wieczór ze Szpakiem" III-ci wiosenny; 21.20 Hokej: Kanada — ZSRR.

WTOREK 28.III.

10.00 „Anglik na kontynencie" — film ang.; 16.00 Kino Ptyś; 16.55 Dziennik; 17.05 Dla dzieci: „Zręczne ręce"; 17.20 Telekram; 17.45 „Studio młodych" (Bratysława, Sofia); 18.30 „Giełda piosenki"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Anglik na kontynencie" — film ang.; 20.55 Kronika Kulturalna; 21.15 Hokej: Polska — Austria.

ŚRODA 29.III.

10.00 „Dr Kildare" — film; 14.45 Hokej: Szwecja — Kanada; 16.20 „Wychów piskląt"; 16.30 PKF; 16.40 „Zupa cebulowa" — film; 16.55 Dziennik; 17.05 Hokej: ZSRR — Czechosłowacja; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Piosenki francuskie" — film; 20.15 „Dr Kildare" — film; 21.05 „Światowid"; 21.35 „Spotkanie z cieniem" — program muz. prowadzi J. Waldorff; 22.20 Dziennik.

CZWARTEK 30.III.

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Dom budujemy — Polskę"; 16.15 „Mechanizacja w gospodarce nawozowej"; 16.45 „Kolejka" — film bułg.; 16.55 Dziennik; 17.00 Kino Ptyś; 17.25 „Co dalej, ósma klaso?"; 17.55 „Na zdrowie"; 18.10 „Gorąca linia"; 18.45 „Dom Bernardy" — widowisko baletowe; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Reportaż film.; 20.15 „Trick 17 B" — tv film fab. NRD; 21.20 Trybuna Telewizyjna; 22.05 Dziennik.

PIĄTEK 31.III.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii — „Co to jest szczęście?"; 12.45 Dla szkół: (kl. III) „Podróżujemy"; 15.30 „Pod flagami ośmiu krajów" — rep. z budowy wysokościowca RWPG w Moskwie; 16.55 Dziennik; 17.00 „Wyprawy TV Przyjaciół"; 17.35 „Przygody Robinsona Crusoe" — film fr.; 18.05 „Wielokropek"; 18.20 Wszechnica TV „Za kierownicą"; 18.50 Film dok. „Zmagania hokejowych tytanów"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Teatr TV: „Wesela pana Balzaka" J. Iwaszkiewicza; 21.35 „10 minut recenzji"; 21.45 „Ludzie z marginesu"; 22.15 Dziennik.

SOBOTA 1.IV.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Biologia — „Ptaki"; 11.25 „Skowronek" — film fab. węg.; 16.20 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Świat, który nie może zginąć" — film; 18.10 „Gorący dzień" — film („Bonanza"); 19.00 „W przestworzach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Pegaz"; 20.50 „Błękitna gwiazda" — film („Markiz, agent sekretny"); 21.20 „Błękitny express" — film; 21.50 Dziennik; 22.05 Wiadomości sportowe; 22.15 „Hamlet"; 23.05 „Pożegnaj się z jutrem" — film fab. USA.




24 MARCA, PIĄTEK

13.15. Program; 13.20 „Mikołka — parowóz". Film; 14.50 Dla uczniów; 15.00 „50 lat władzy radzieckiej"; 15.55 Dziennik pięciolatki; 16.30 Dziennik; 16.50 Koncert estradowy; 17.30 Sztafeta nowin; 18.30 „Cichy Don". Film. 3 seria; 20.30 Politechnika TV.

25 MARCA, SOBOTA

10.25 Program; 10.30 Dla uczniów; 12.00 Film dla dzieci; 13.10 Film kukiełkowy; 13.30 Dziennik; 14.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce; 16.30 Film telewizyjny; 17.00 Hokej. ZSRR — Szwecja; 19.20 „Ogoniok"; 20.30 Hokej. Czechosłowacja — Kanada.

26 MARCA, NIEDZIELA

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Szkatułka muzyczna; 9.20 Książki dla dzieci; 9.40 „50 lat władzy radzieckiej"; 10.00 Klub filmowy; 11.00 „Muzeum sztuki im. A. Puszkina"; 11.30 Dla teatrów amatorskich; 12.00 Zawody sportowe dla dzieci; 12.55 Dla żołnierzy. Program z Kaliningradu; 13.50 Dziennik; 14.00 „Poezja"; 14.40 Kiosk muzyczny; 15.10 „Bohaterowie lat płomiennych"; 15.40 Śpiewa artystka ludowa ZSRR J. Archipowa; 16.30 Klub Wesołych; 18.30 Dziennik; 19.00 Mistrzostwa Europy w gimnastyce; 20.00 Teatr telewizyjny; 21.00 Hokej. NRD — NRF.

# ЗОРКА ВЕНЕРА...



Хор. Дырыжор Міхаіл Ануфрыеў. Сола Валя Цімашук.

Беларускі хор пры гарадскім аддзеле Таварыства ў Беластоку вырастае на магутны магніт. Другі яго канцэрт выклікаў энтузіязм слухачоў. У праграму хору ўвайшла такая жамчужына песеннага рэпертуару, як «Зорка Венера» — цудоўны раманс на словы М. Багдановіча.

Нялёгкая песня, але хор добра справіўся з ёю ўпершыню, а пры далейшай працы над «Зоркай» будзе яна непаўторным найпрыгажэйшым нумарам праграмы. Сола спявае **Валя Цімашук.**

Дасканалы барытон **Уладзімір Юрчак** сышоў з вышыні задняга раду і выступіў з дзвюма сольнымі песнямі «Што за месяц, што за ясны» і «Гарэліца» на словы **Віктара Шведа.** Дасканалая вымова і добры голас саліста — вялікі здабытак канцэрта.

Прадаўжаючы ўпарта змагацца за беларускі рэпертуар беларускіх хораў, я хачу сказаць, што ў выпадку хору гарадскога аддзела змаганне лішняе ўжо, бо акрамя паказовых — адной польскай і адной рускай песень, рэпертуар нашага хору скрозь беларускі. Нарэшце! Разумная рэпертуарная палітыка дырыжора **Міхаіла Ануфрыева** і яго няспынная энергія ў цяжкай працы з хорам, якому (калі не паддасца слабасцям) прарочу вялікую і пахвальную будучыню, настрайвае аптымістычна.

**Вера Леўчук**

P.S.
Здымкі, якія далучаем тут да кароткіх слоў аб хоры, зроблены на вечары ў клубе гарадскога аддзела БГКТ, на якім хор выступіў з канцэртам у 49-ую гадавіну Савецкай Арміі.



Два пакаленні беларускага клуба: маці і сын. Люба і Алік. Абое харысты. На здымку — ва уласным дуэце.



Калі гучыць родная песня.

Фота **Ю. Рыбінскі**

**А. Баршчэўскі, В. Швед**

## Дружба і праца

**Хрэстаматыя для VIII класа**

### РОДНАЯ МОВА

**З легендаў і казак былых пакаленняў,**
**З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,**
**З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,**
**З грымучага ззяння бурлівых крыніц,**
**З птушынага шчэбету, шуму дубровы,**
**І з гора, і з радасці, і з усяго**
**Таго, што лягло назаўсёды ў аснову**
**Святыні народа, бяссмерця яго, —**
**Ты выткана, дзіўная родная мова.**

**Няма на зямлі таго шчасця і гора,**
**Якога б ты нам перадаць не магла.**
**Няма такіх нетраў, глыбокага мора**
**І гор, праз якія б ты не правяла**
**Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння**
**Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй**
**Над спаленай хатай, над родным загонам,**
**Над будучыняй і над песняй маёй, —**
**Над тым, што было і што век будзе вольны.**

**Народ пранясе цябе, родная мова,**
**Святлом незгасальным у сэрцы сваім**
**Праз цемру і годы змаганняў суровых.**
**Калі ж ападзе і развеецца дым**
**І нівы васкрэсшыя закаласяцца, —**
**Ізноў прашуміш ты вясковым дажджом,**
**Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,**
**Цымбалам дасі іх сярэбраны гром,**
**І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.**

**Максім Танк**

**1943 г.**

1. Завучы верш напамяць.
2. Чаму кожны народ павінен любіць і шанаваць сваю родную мову?
3. Ці ведаеш іншых паэтаў, якія пісалі вершы аб роднай мове?
4. Ці сустракаліся вы ў жыцці з беларускім паэтам? Калі так, дык апішыце свае ўражанні або напішыце яму пісьмо.

**Прыказкі і прымаўкі**

Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.

Радзіма — матка, чужына — мачыха.

Ідзеш на дзень — хлеба бяры на два.

Кожны чалавек сваім стылем жыве.

# РАЗМОВЫ АБ ЭТНАГРАФІІ

Аб этнаграфіі ўсходняга Падляшша размаўляем з загадчыкам кафедры этнаграфіі Варшаўскага універсітэта прафесарам Вітальдам Дыноўскім.

**— Пане прафесар, кафедра этнаграфіі Варшаўскага універсітэта вядзе ад шэрагу гадоў інтэнсіўныя доследы ва ўсходніх раёнах Падляшша. Якая мэта гэтых дослелдаў? Чаму менавіта гэты раён выбралі вы для сваіх доследаў?**

— Раён гэты з'яўляецца ўнікальным у маштабе ўсяе краіны. Захаваліся тут, як нідзе, старая народная традыцыя ў розных галінах жыцця. На ўсходнім Падляшшы наглядаецца непасрэднае сутыкненне традыцыйнай сялянскай культуры з найбольш сучаснымі працэсамі хутка індустрыялізуючагася грамадства. З навуковага пункту гледжання даследванне пераутварэнняў культуры ў такім спалучэнні традыцыі і сучаснасці вельмі цікавае. З другога боку, раён гэты заўсёды раней быў памостам паміж двума абшарамі розных культур: да першай сусветнай вайны — паміж Польшчай і Расійскай імперыяй, у міжваенны перыяд — паміж цэнтральнай Польшчай і Заходняй Беларуссю. Зараз умовы такія не існуюць і вясковая грамадскасць гэтага раёну аказалася ў зусім новай, раней няведамай ёй сітуацыі. Сітуацыя гэта таксама цікавая для этнографа, які хоча зразумець працэс грамадскіх пераўтварэнняў.

**— Якія тады дасягненні мае кафедра этнаграфіі ў распрацоўцы пераўтварэнняў народнай культуры ўсходняга Падляшша?**

— Перад усім сказаць трэба аб падрыхтоўваемай кафедрай зборнай працы пад загалоўкам «Подлясе». З іншых дасягненняў звярнуць трэба ўвагу на працы ад'юнкта кафедры Мар'яна Пакропка на тэму асадніцтва і будаўніцтва на Падляшшы, а таксама на мноства магістэрскіх прац на тэму розных галін жыцця паасобных вёсак усходняга Падляшша. Зараз ёсць 25 такіх прац і ў гэтым годзе пішуцца наступныя. Затым наша кафедра штогод арганізуе для студэнтаў этнаграфіі на Падляшшы тзв. «этнаграфічныя табары». Студэнты там засвойваюць на практыцы метады збірання этнаграфічнага матэрыялу. Такія табары адбыліся між іншым у 1959—1961 гадах — у Драгічыне, у 1962—1964 гадах — у Гайнаўцы і ў 1958 годзе — у Бельску-Падляшскім. Быў сабраны тут багаты этнаграфічны матэрыял, які зараз знаходзіцца ў архіве нашай кафедры.

**— Вернемся аднак да асноўнага падсумавання вынікаў этнаграфічных доследаў у гэтым раёне, да падрыхтоўваемай працы «Подлясе». Якія тэмы будуць распрацаваны ў гэтай кніжцы?**

— Агульна беручы, тэмай кніжкі будзе фармаванне новага чалавека і новага культурнага аблічча сучаснай падляшскай вёскі, уплыў традыцыі і новых ідэй на гэтае фармаванне. Аналіз праведзены будзе ў трох храналагічных планах: стан да I сусветнай вайны, міжваенны перыяд і перамены пасляваеннага перыяду.

**— З зацікаўленнем будзем чакаць кніжкі. Пакуль аднак кніжкі няма, я папрасіў бы вас зрабіць пэўнае абагульненне: ці відавочны ў мове і духоўнай культуры падзел Падляшша на беларускую і польскую этнічную стыхію вяжацца з нейкім глыбейшым разрозненнем у галіне матэрыяльнай культуры і спосабе гаспадаравання? Ці можна гаварыць аб спецыфічнай матэрыяльнай культуры беларусаў на Беласточчыне?**

— Спецыфічных беларускіх элементаў не заўважаю. Межы моўных, рэлігійных, ці тым больш нацыянальных уплываў не зыходзяцца з межамі распаўсюджання паасобных элементаў матэрыяльнай культуры. Праўда, на Беласточчыне можна знайсці нацыянальную групу, якая захавала спецыфічную, ёй уласцівую культуру. Гэта група рускіх-стараавераў. Было гэта аднак вынікам глыбокай ізаляцыі, у якой знаходзіліся старaверы. З другога боку — спецыфічныя культурныя элементы мела г.зв. «шляхта заградовая». Ізноў, аднак, гэта з'яўляецца вынікам становай яе ізаляцыі. Паміж тэхнічным узбраеннем шляхціца і ўзбраеннем беларуса-селяніна была вялікая розніца, якраз такая ж самая, як паміж ім, шляхціцам, і селянінам — палякам. Тым часам паміж селянінам-палякам і селянінам-беларусам розніца з гэтага пункту гледжання калі і была, дык так нязначная, што не варта аб ёй і ўспамінаць.

**— Дзякуем і чакаем вашых прац.**

Размаўляў
**Ул. Паўлючук**



# ХОЛАД У БІБЛІЯТЭКАХ

Беластоцкі, ды і не толькі, друк многа месца прысвяціў справе працы павятовай бібліятэкі ў Бельску. Тэматыка публікацыі перад усім была звязана з вельмі дрэннымі памяшкальнымі ўмовамі. Фінал быў такі, што інспектар працы выдаў службовы загад замкнуць памяшканне і перанесці кнігазбор у іншы будынак, дапасаваны да неабходных умоў працы бібліятэкі. Справа была разгледжана Прэзідыумам ПРН, які пастанавіў **гаспадарчым спосабам пабудаваць будынак-павільён, дзе будзе памяшчацца бібліятэка.** Праца над пабудовай бібліятэкі — павільёна ўжо пачата. І гэта добра.

Але, як гавораць, дзе коратка там і рвецца. У першай палове сакавіка дайшлі да нас весткі, што не зусім добра выглядае справа ў грамадскіх бібліятэках Бельскага павета. Справа тут не ў памяшканнях, але ў чыстай нядбайнасці. Напрыклад, бібліятэка ў **Грэдалях ужо тры тыдні** не мае чым паліць, і пануе тут страшэнны холад. Хто ж сюды прыйдзе па кніжку? Падобная сітуацыя і ў **Страблі,** дзе ў новым памяшканні ёсць і клуб «Рух» і бібліятэка. У Орлі, штопраўда, ёсць чым паліць, але так холадна, што можна змерзнуць за той час, пакуль пазычыш кніжку. Здаецца, што тут выглядае на недахоп каардынацыі з боку павятовых улад і чыстую нядбайнасць некаторых ГРН.

Кара




**ШТО ЧЫТАЦЬ?**

Алесь Якімовіч
**«НОВЫ ГОД»** — апавяданні. Кніжка мае 425 старонак.

Міхась Чарот
**«АПАВЯДАННІ»**. Збор твораў, I том. Старонкі ад 7 да 103.

Міхась Чарот
**«ВЕРШЫ І ПАЭМЫ»**. Збор твораў, II том. Старонак 287.

Аляксей Кулакоўскі
**«ХОРАША ЎЗЫХОДЗІЦЬ СОНЦА»**. Аповесць.

Іван Мележ
**«МІНСКІ НАПРАМАК»**. Раман. 551 старонка. Вельмі цікавая кніжка ў 3-х частках.

Аркадзь Чарнышэвіч
**«СУСЕДЗІ»**. Апавяданні. Кніжка мае 219 старонак.

Пімен Панчанка
**«ВЕРШЫ І ПАЭМЫ»**. У двух тамах. Для конкурсу хопіць прачытаць адзін том.

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

## Этнічныя працэсы ў перапісе

У 1969 годзе ў Савецкім Саюзе праведзены будзе ўсеагульны перапіс. Зараз ідзе да яго актыўная падрыхтоўка. У сувязі з тым «Літературная газета» надрукавала артыкул кандыдата эканамічных навук В. Пераведзенцава на тэму недахопаў папярэдняга перапісу, які адбыўся ў 1959 годзе і спосабаў іх выпраўлення ў перапісе 1969 года. Між іншым аўтар сцвярджае неабходнасць рэгістрацыі этнічных працэсаў, а перад усім моўных узаемаўплываў паміж народамі СССР. У час перапісу ў 1959 годзе ў Савецкім Саюзе было 12 мільёнаў людзей, для якіх роднай мовай была мова не сваёй нацыі, з іх — для 10 мільёнаў — была гэта руская мова. Апрача роднай мовы перапіс павінен на думку Пераведзенцава, уключыць пытанне аб другой мове, якой валодае грамадзянін СССР.

У інтэрв'ю, якое пасля гэтага артыкула даў для «Литературной газеты» начальнік ЦСУ (Цэнтральнага статыстычнага упраўлення) РСФСР Б. Калпакоў, сцверджана, што ў перапісны фармуляр уключана будзе пытанне: «Родной язык? Каким еще языком народов СССР вы свободно владеете?» (п)

НОВЫЯ КНІГІ

## Беласточчына — ваяводства „палітыкаў"

На днях паявілася ў кнігарнях кніжка, якую павінны прачытаць усе, хто цікавіцца пераўтварэннямі культуры вёскі, у тым ліку і беларускай вёскі. Маю на думцы кніжку Паўлячынскай пад загалоўкам «Dynamika przemian kultury na wsi».

Аўтар яе паслугоўваецца метадам матэматычнага, высока ўдасканаленага аналізу дадзеных, сабраных асяродкам даследвання грамадскай думкі пры Польскім радыё. Вывады, сфармуляраваныя ў сцісла навуковай, матэматычнай мове, узбуджаюць вялікі давер. А вось некаторыя з гэтых вывадаў:

1) Ступень занепаду народнай культуры і ўваход на вёску універсальнай, масавай сучаснай культуры не залежыць ад узроўню прамысловасці ў дадзеным раёне, залежыць ён тым часам ад узроўню горадабудаўніцтва (урбанізацыі), насычанасці раёну гарадамі, станам камунікацыйных шляхоў у гэтыя гарады і г. д. Тымчасам могуць існаваць раёны нават моцна індустрыялізаваныя (упрамысловеныя), але з тыповай традыцыйнай культурай вёскі.

2) Пранікание ў вёску новых форм правядзення свабоднага ад працы часу не супрацьдзейнічае традыцыйным яго формам. Чым вышэйшы эканамічны ўзровень вёскі, тым больш у гэтай вёсцы людзі слухаюць радыё, чытаюць газеты і кніжкі, глядзяць кінафільмы і тэлевізары, а адначасова тым часцей сустракаюцца паміж сабою вечарамі, ходзяць у святліцу і гасподу.

3) Чым вышэйшы эканамічны і культурны узровень вёскі, тым больш цікавіцца яна спортам і тым менш цікавіцца палітыкай. Такім чынам Беласточкае ваяводства аказалася ў спісе першым па зацікаўленні сялян палітыкай і апошнім па зацікаўленні вёскі спортам. Наадварот — Катавіцкае ваяводства. Знаходзіцца яно на першым месцы па зацікаўленні спортам і на адным з апошніх па зацікаўленні палітыкай.

На думку аўтара, зацікаўленне насельніцтва палітыкай звязана з адсутнасцю стабілізацыі, пачуццём жыццёвай няўпэўненасці, характэрнымі для раёнаў адносна бедных. Пацвярджаюць гэта між іншым і доследы амерыканскіх сацыёлагаў, якія паказваюць, што ў асяроддзях стабілізаваных, высокапрамысловых і багатых адсутнічае зацікаўленне палітыкай і шырэйшымі агульнаграмадскімі праблемамі. (п)

ЭТНАГРАФІЯ



Хата Ільяша Міхальчука ў вёсцы Локніца, Бельскага павета.
Фота В. Весялоўскі




Збіраецца што нейкі час розных розпасцей аб розных імпрэзах у горадзе Беластоку і ў тэрэне, бо і тут яны адбываюцца.

На першы агонь ідзе Белавежа. Тутэйшыя прыяцелі Белавежы не абніжаюць свайго лёту. Іх праца творыць цікавую гісторыю горада Белавежы.

Таварыства прыяцеляў Белавежы прадставіла ў апошні час такія тэмы: «Сённяшняя Турцыя» — **інж. Аляксея Зіна**, «Найзвычайнейшы жук Белавежскай пушчы» — **д-ра інж. Станіслава Бароўскага**, «Два гады ў Конга» — **мгр. Юзэфа Летыньскага.** 21 сакавіка адбыўся агульны сход членаў таварыства.

*

Тэатр «Сверщ» у Беластоку прадставіў вельмі цікавую гісторыю «Котка-Протка». Вялікае перажыванне малышам! Будзе іграцца ў тэрэне.

*

Клуб прафсаюзаў у Беластоку прадважае культурны цыкл у постаці «Вечароў трох муз» (музыка, песня, паэзія). У апошні час адбыўся вечар «Музыка і песня Венгрыі».

*

Сакавік і красавік — месяцы плённыя ў акцыі «Сядайце, калі ласка, едзем». Выезды з «Грамадай» у Варшаву (Вялікі тэатр), у Лодзь (новы Вялікі тэатр), на слаўнага «Пана Вакульскага» (у Драматычным) у пастаноўцы **Ганушкевіча** — гэта толькі некалькі прыкладаў. Акцыяй павінны цікавіцца ўсе, яна дае многа.

Прыпамінаем, што экспазітура «Грамады» ёсць ужо ў Сямяцічах. Яна на месцы ўладжвае ўсялякія экскурсіі. (вл)

БЕЛАРУСІЯНА

## Правінцыянальная? Перыферыйная?...

Аўтарытэтны літаратурны месячнік «Twórczość» («Творчасць»), які рэдагуе Ярaслаў Івашкевіч, зацікавіўся нашай літаратурнай праблематыкай. У другім, лютаўскім нумары гэтага часопіса апублікаваны артыкул Віктара Рудчыка, нашага рэдакцыйнага калегі. Загаловак артыкула — «У Польшчы па-беларуску».

У гэтым артыкуле Рудчык робіць разгляд нашага беларускага літаратурнага асяроддзя, перспектыва якога ў значнай меры залежная ад БГКТ і «Нівы». Прытым, звяртае ён увагу на аўтэнтызм, няштучнасць гэтага асяроддзя, хаця і ўзнікла яно адначасова з утварэннем рэдакцыі «Нівы» (1956 г.).

Віктар Рудчык слушна наракае на тое, што беларускі літаратурны рух у Польшчы пакінуты самому сабе і дамагаецца сур'ёзнага падыходу да беларускай літаратуры, ствараемай у Польшчы, якая з'яўляецца неадлучнай часткай культуры Народнай Польшчы. І лічыць, што дасягненні нашага літаратурнага асяроддзя заслугоўваюць сур'ёзнай увагі, каб не дапусціць да яловай вегетацыі асяроддзя і правінцыялізму. (С.Я.)




Прасторная судовая зала. Суровае абсталяванне. Нічога няма тут лішняга. Усё зводзіцца да таго, каб адразу даказаць чалавеку яго слабасць у сутыкненні з правам.

Адзываецца званок.

— Устаць, суд ідзе! — абвяшчае дзяжурны.

Суддзя займае сваё высокае крэсла. Побач яго два грамадскія засядацелі. Жанчына і мужчына. Твары суровыя, сканцэнтраваныя. Даводзіцца ім вырашаць справу чалавечага лёсу.

З правага боку стала (ад суддзі) — пракурор, з левага — сакратарка; ніжэй — адвакат, а за ім — за бар'ерам абвінавачаны злачынца ў кампаніі міліцыянераў. У зале дзесяткаў два чалавек. Прышлі ў суд, як у тэатр, у якім вырашаюцца самыя істотныя праблемы чалавечага жыцця. Тут і гора, і радасць, і слёзы, і смех.

Суддзя ціхім бясстрасным голасам чытае:

— Адкрываю судовы разбор справы Яўгенія Шэранюка, абвінавачанага згодна з артыкулам 225, параграф I крымінальнага кодэкса ў тым, што 31 мая 1966 года...

У зале напружанае маўчанне. Ніхто нават не варухнецца. Артыкул 225 — гэта свядомае забойства чалавека.

— Абвінавачаны, — пытае суддзя, — ці зразумелі вы акт абвінавачання?

Ён маўчыць. Пустымі вачыма нерухома глядзіць недзе далёка, быццам усё гэта не яго краналася.

— За што вы ў турме сядзіце? — наводзіць суддзя.

Абвінавачаны моўчкі пацягвае носам і выціраe слёзы.

— Прызнаецеся да забойства? — суддзя пачынае крыху нецярпліва. — Ці будзеце штосьці гаварыць?

— Я нічога не разумею, — ледзь чутна гаворыць злачынца. Былі гэта яго першыя і нямногія словы, якія вымавіў ён у судовай зале. Суддзі памагае адвакат, просіць абвінавачанага, каб штосьці гаварыў.

— Я нічога не памятаю, — ціха сцвярджае той.

Суддзя просіць сведкаў. Іх аж 19. Першая стае перад судом цёшча абвінавачанага. Старая, згорбленая жанчына гаворыць пра трагедыю сваёй роднай дачкі, якую забіў яе, дачкі, уласны муж. Расказ маці папаўняе сястра забітай, а на другі дзень судовага разбору перад судом стае сямігадовае дзіця — асірацеўшая Крыстынка. Як жа трагічна гучаць яе словы, калі ціхім голасам гаворыць:

— Так, тата забіў маму.

Суддзя паказвае ёй акрываўлены складаны ножык.

— Ці гэтым нажом забіў? — пытае.

— Не ведаю, — апускаючы вочы гаворыць Крыстынка, а потым дабаўляе: — Тата меў такі ножык.

Тата сядзіць, бы акамянелы. Нават не паглядзіць на дзіця, якое з-за яго засталося сіратой. Не толькі яно адно. Крыстынка таксама не глядзіць на бацьку. Ды ён ужо ёй не бацька. Паватовы суд у Сямяцічах яшчэ раней адабраў у яго бацькоўскія правы. Праўным апекуном стала сястра забітай, Марыя Пятрук. Адно, самае малодшае дзіця пакінула пры сабе, а трое старэйшых знайшлі апеку ў дзіцячым доме ў Беластоку.

Потым перад судом праходзяць другія сведкі, аднавяскоўцы, знаёмыя і сябры ад бутэлькі. Сярод іх нават адна маляваная прыгажуня з Сямяціч, у якой найчасцей бачылі абвінавачанага.

Са слоў 19 сведкаў памалу, бы мазаіка з дробных каменьчыкаў, складаецца вобраз чалавека, які на сваё сумленне зусім бяздумна узяў жыццё другога, ды яму блізкага чалавека.

Седзячы ў судовай зале, я не раз задумваўся: ці зразумее ён цяжар свайго злачынства?

Яўгеній Шэранюк паходзіць з беднай сям'і з вёскі Каянка. Бацькі зусім не памятае, бо застаўся сіратой, маючы толькі тры гады. Маці не дала яму і другім сваім дзецям належнага выхавання. Яўгеній вырас чалавекам, для якога існавалі толькі гарэлка і вясёлыя гульні з лёгкадумнымі дзяўчатамі. Яму зараз усяго 29 год. Жонка яго была старэйшая на 4 гады. Жылі яны ў вёсцы Шэршані, два кіламетры за станцыяй Сямяцічы.

Яўгеній Шэранюк апошнім часам працаваў трубачыстам. Зарабляў 1900 злотых. Жонцы і дзецям аддаваў па 200—300 злотых. Рэшта расплывалася ў гасподах і ў вясёлых кампаніях. Бывала і так, што прапіваў яшчэ і тых грошай, якія аддаў жонцы.

Дзеці галадалі.

Жонка дамагалася ад мужа больш клапаціцца аб дзецях, дамагалася грошай. Успыхвалі сваркі. Здараліся яны так часта, што ў вёсцы ўжо прызвычаіліся да іх і мала хто звяртаў на гэта ўвагу. Гаварылася звычайна...

— А, гэта Петрукоў зяць сваю Нінку лупцуе.

 





## РУБІНЫ

Гэта дарагія камені цёмначырвонага колеру, якія зіхацяць у святле яркімі, глыбокімі праменнямі, якія пераліваюцца, як хвалі. Упрыгожваюць яны пярсцёнкі, пацеркі, навушніцы. Прыдаюць прывабнасці жанчынам, хоць не ўсім яны даступныя, бо вельмі дарагія.

Рубіны выкарыстоўваюцца не толькі для ўпрыгожвання ювелірных вырабаў. Шырока яны прымяняюцца ў тэхніцы, як рубінавы лазер — установка да згушчэння энергіі святла, якая зараз робіць вялікую кар'еру.

Натуральны рубін вельмі рэдка выступае ў прыродзе. На шчасце, тэхніка знайшла спосабы ствараць штучныя рубіны. У Польшчы выпускае іх спецыяльны цэх алюмініевага завода ў Скавіне. На здымку бачым установку для апрацоўкі рубінаў. Шліфоўкай рубінаў займаецца Ян Цэбуляж.

**Нейтрына**

## МОВА ЖЫВЁЛЫ

Цяпер становіцца ўсё больш аэрадромаў, абсталяваных... штучнымі крыкамі. У час узлёту і пасадкі рэактыўных лайнераў, галасы птушак, што запісаны на магнітную стужку, напаўняюць паветра крыкамі, якія папярэджваюць аб небяспецы. Сярод птушак — страшэнны перапалох, яны хаваюцца. Самалёт можа спакойна ўзлятаць або ісці на пасадку.

А яшчэ нядаўна птушкі маглі трапіць у турбіны і стаць прычынай аварыі.

— Насякомыя, рыбы, птушкі і малпы валодаюць даволі складанай мовай. Часта іх нават нельга пачуць без прыбораў: яны размаўляюць пры дапамозе ўльтра- ці інфрагукаў. Бытуе, напрыклад, прымаўка «Нямы, як рыба». А на самай справе многія рыбы проста балбатлівыя.

Меркаванні аб дрэнным слыху рыб і прымітыўнасці іх гукавых сувязей адвергнуты. Устаноўлена звыш тысячы відаў рыб, здольных абменьвацца сігналамі. Інфрагукі, якіх чалавек не чуе, рыбы ўспрымаюць бакавой лініяй — мяжой паміж цёмнай спінкай і серабрыстым брушкам. А звычайныя гукі — унутраным вухам. Веданне механізму сувязі рыб, магчыма, спатрэбіцца пры стварэнні прыбораў, якія пачнуць прынаджваць рыбу ў сеткі ці адпалохваць марскіх драпежнікаў.

Найбольш складаная і развітая мова кітовых, асабліва дэльфінаў. Цудоўны іх ультрагукавы лакатар. Яны здольныя не толькі вымяраць адлегласць, але і адрозніваць жывыя аб'екты мора — свой харч — рыб і з вялікай дакладнасцю вызначаць дыстанцыю да любой перашкоды — каменнай ці металічнай. Калі б людзям удалося стварыць такія партатыўныя і адчувальныя прыборы, то дыяпазон іх выкарыстоўвання быў бы, напэўна, вельмі шырокі.

Жывёліны адных і тых жа відаў, што жывуць у розных геаграфічных раёнах, выпрацоўваюць уласныя «дыялекты» і не заўсёды разумеюць адна адну. Аднак сувязі, што адносяцца да розных відаў, адзін аднаго разумеюць. Так, напрыклад, стракатанне сарокі для ўсіх жыхароў лесу азначае — «увага».

Птушкі, якія жывуць у стэпах і пустынях, уключаюць у свае трэлі свісты мясцовых суслікаў, пясчанак і іншых грызуноў. Дарэчы, мова гэтых жывёлін зусім не бедная. Вопытныя натуралісты беспамылкова пазнаюць па сігналу небяспекі сусліка, хто іменна - птушка, жывёла ці чалавек наблізіліся да яго ўладанняў.

Цікава, што, скажам, французскія і амерыканскія вароны ці чайкі не разумеюць адна адну. Так сігнал небяспекі, які выклікае паніку і ўцёкі птушак на адным беразе Атлантыкі, на процілеглым абсалютна не дзейнічае.

Мова жэстаў не менш выразная для жывых істот, чым гукавая. Жэсты пагрозы, заляцання, запалохвання шырока распаўсюджаны сярод насякомых, рыб, птушак, жывёлы. Вельмі развітая мова жэстаў вышэйшых насякомых, такіх, як пчолы, мураўі, тэрміты, а таксама пазванковых, не выключаючы рыб.

З дапамогай «танца» пчолы інфармуюць адна адну, дзе яны знайшлі багатае месца для ношкі і нектару. Чым больш складаны малюнак танца, тым больш падвергнуты ён геаграфічным зменам. Вось чаму італьянскія пчолы не разумеюць аўстрыйскіх.

Найбольш старажытныя хімічныя сродкі сувязі. Мікраарганізмы, прымітыўныя жывыя істоты абменьваюцца інфармацыяй пры дапамозе хімічных рэчываў. Самцы начных матылькоў даволі хутка знаходзяць самку па паху на адлегласці васьмі кіламетраў. Іх «хімічныя радары» здольныя ўспрымаць знікаюча малую дозу асаблівага араматычнага рэчыва, якое выпрацоўваецца самкай.

Вельмі ўспрымальныя да паху і рыбы. Пры свежым парэзе скуры, калі ў ваду трапляюць хімічныя рэчывы, яны служаць сігналам небяспекі. Эксперыментатары прамывалі невялікі кавалачак свежай рыбінай скуры, а потым некалькі кропель гэтай вадкасці дабаўлялі ў акварыум аб'ёмам сто пяцьдзесят літраў. Праз імгненне рыбкі-гальяны, веерам разляцеўшыся, заміралі ў сховішчах на дне.

Дарэчы, крыкі раненага марскога акуня ў спалучэнні з пахам яго крыві прыцягваюць акул у раёне да кіламетра. Устаноўлена, што акулы на паляванні кіруюцца перш за ўсё нюхам. Вялікае значэнне хімічнай інфармацыі ў жыцці вандруючых рыб — вугра, кеты, гарбушы, міногі.

Жыхары сушы таксама валодаюць вельмі развітым нюхам. Яны беспамылкова ўгадваюць хімічныя меткі іншых жывых істот, пакінутыя там, дзе яны жывуць, а таксама выдатна знаходзяць адзін аднаго па паху.

Доўга заставалася загадкай, чаму розныя хімічныя рэчывы валодаюць падобнымі пахамі, а блізкія злучэнні, наадварот, рэзка адрозніваюцца адзін ад аднаго. У нашы дні механізм нюху блізкі да расшыфроўкі. Даказана, што органы нюху вызначаюць не хімічны састаў пахучых рэчываў, а форму і асаблівасці іх малекулаў.

Гэта растлумачыла, чаму рэчывы блізкага хімічнага саставу пахнуць па-рознаму, тады як хімічна далёкія злучэнні валодаюць аднолькавым пахам. Устанаўленне такой залежнасці адкрывае магчымасць накіраванага сінтэзу араматычных злучэнняў, здольных прыцягваць ці адпалохваць жывыя істоты.

З дапамогай пахаў, гукавых сігналаў і мовы жэстаў паляўнічыя змогуць прыцягваць жывёлу ў загадзя выбраныя месцы, рыбакі — прынаджваюць рыбу ў сеткі, земляробы — ахоўваць вінаграднікі ад птушак-шкоднікаў. Вельмі вялікае значэнне мае сінтэз прэпаратаў, якія здольны адпалохваць крывасосных насякомых-шкоднікаў, такія, як камары, мошкі, сляпні, макрацы, клапы, кляшчы.

### ЗОЛАТА Ў ВАЛАСАХ ЧАЛАВЕКА

Вывучаючы склад чалавечага воласу, англійскія вучоныя выявілі ў ім наяўнасць золата. У невялікіх колькасцях золата ўтрымліваецца ў валасах усіх людзей. Цікава, што ў валасах жанчын золата больш чым у валасах мужчын.

### ЦІ ЗАГАРАЮЦЬ ЖЫВЁЛЫ

Жывёлаводы часта праводзяць абпраменьванне здаровых жывёл ультрафіялетавымі праменнямі, лічачы, што гэта ўмацоўвае арганізм жывёл і птушкі, павышае іх прадукцыйнасць. Вучоныя Якуцкага ўніверсітэта ў выніку праведзеных доследаў паказалі, што нават самае інтэнсіўнае абпраменьванне ртутна-кварцавымі лямпамі не выклікае ніякіх змяненняў скуры і крыві жывёл. Яны не загараюць.




**— Што вы на гэта скажаце? — запытаў Вольскі. — Ваш жа кумок нам усё расказаў. Не ашуквайце сябе, нічога ўжо не ўтоіце ад нас.**

**— Шэльма! Паршывая дрэнь! Гестапавец! — істэрычна закрычаў Качмарэк. — Ашукаў вас, ашукаў! Гэта ён ва ўсім вінаваты, я толькі... — У гэты момант ён завагаўся і трывожна глядзеў на афіцэраў, якія слухалі яго з напружаннем.**

**Вольскі хутка ўзяў наступны канверт, з якога дастаў банкноты і здалёк паказаў іх Качмарэку.**

**— Вам гэта знаёмае? — запытаў Вольскі.**

**— Гэта не мае, — запярэчыў шпіён. На яго твары з'явіліся дробныя кроплі поту.**

**— Вашы, — настойліва сказаў Вольскі. — Тут семсот злотых. У банкнотаў такія цікавыя нумары серый, — іранічна дадаў Вольскі.**

**— Гэта няпраўда! — закрычаў шпіён. — Ён пра гэта не ведаў! Ключ ад шыфру ён павінен быў атрымаць толькі ў сераду...**

**— Я згодзен, ваш саўдзельнік сапраўды пра гэта не ведаў, — заявіў Вольскі. — Ён паведаміў нам толькі некаторыя падрабязнасці, а мы ўжо самі да ўсяго дабраліся. Але хопіць гэтага. Ваш псеўданім? — дзелавіта спытаў Вольскі.**

**Качмарэк ад гуку яго голасу быццам нібы астыў і апрытомнеў. Вольскі заўважыў у яго вачах разгубленасць.**

**— Добра, усё раскажу, — адважыўся ён.**

**Паручык Вага выклікаў сержанта.**

**— Пратакаліруйце допыт! — загадаў яму Вага.**

**Сержант сеў за столік, на якім была пішучая машынка.**

**— Імя, прозвішча, псеўданім, — пачаў Вольскі допыт.**

**Нямнога пайшло часу на біяграфію шпіёна. Ён быў зламаны, нічога не ўтойваў. Неўзабаве Вольскі перайшоў да асноўных пытанняў.**

**— З кім вы супрацоўнічаеце? — спытаў ён коратка.**

**Качмарэк расказваў падрабязна пра свае кантакты са Стэйнеке. Вольскі мог ганарыцца. Прызнанні агента поўнасцю пацвердзілі яго меркаванні.**

**— Якое было ваша галоўнае заданне? — спытаў ён.**

**— Перш за ўсё я павінен быў устанавіць месца дыслакацыі ракетных батарэй, якія ўваходзяць у састаў дывізіі, здабыць інфармацыю, што датычыць перыядаў змянення дыслакацыі батарэй, а таксама тактыка-тэхнічныя даныя проціпаветраных ракет. У далейшым я павінен быў забяспечваць інфармацыяй аб арганізацыйнай структуры дывізіі.**

**— А якое заданне атрымаў «Ф-7»?**

**— Дэталёва не ведаю. Ва ўсякім разе, ён павінен быў мне дапамагаць. Гэта значыла, што ён павінен быў быць пасрэднікам у перадачы рапартаў у цэнтр, а таксама эфектыўна адбіраць інфармацыю аб пунктах размяшчэння ракетных батарэй і звяраць яе з мясцовасцю.**

**— Згодна з вашымі паведамленнямі?**

**— Ну так.**

**— Якім чынам вы хацелі ўстанавіць даныя, што датычаць выяўлення і апавяшчэння? — спытаў заінтрыгаваны Вага.**

**Шпіён усміхнуўся з адценнем перавагі.**

**— Гэта было надзвычай лёгка, — сказаў ён пераканана.**

**Афіцэры запытальна паглядзелі на яго.**

**— Праграма перападрыхтоўкі афіцэраў запасу прадугледжвае практыку ў штабе дывізіі.**

**— І што з гэтага? — нецярпліва перапыніў Вольскі.**

**— Нічога, — адказаў Качмарэк. — Я быў неяк у аператыўным кабінеце. Мяне паслалі за вучэбнымі дапаможнікамі. На сцяне вісела карта, на якой былі абазначаны гэтыя даныя.**

**— Вы збіраліся яе ўкрасці? — пацікавіўся Вольскі.**

**Шпіён пацінуў плячыма.**

**— Навошта? Дастаткова было проста яе сфатаграфаваць.**

**— З таго, што вы расказалі, вынікае, што ў вас быў фотаапарат, — зазначыў Вольскі. — Дзе вы яго хавалі?**

**— У мяне зусім не было апарата, — абурыўся Качмарэк. — Мне павінен быў яго даставіць «Ф-7», але толькі пазней, пасля выканання першага задання.**

**— Гэта павінен быў быць звычайны апарат?**

**— Так, нармальны мікраапарат, уманціраваны ў гузік мундзіра.**

**— Што вы перадавалі ў нядзелю? — працягваў Вольскі.**

**— Вы ж ведаеце, — мармытаў шпіён. — Тактыка-тэхнічныя даныя ракеты SQMZ-2, ну і месцы дыслакацыі.**

**— А адкуль вы ўзялі гэтыя даныя?**

**— Даныя ракет я запомніў з лекцый, месцы дыслакацыі — з той кнігі на дзяжурстве.**

**— Перад гэтым вы мелі якія-небудзь даныя?**

**— Зразумела, — ажывіўся шпіён. — Я ведаў напамяць назвы больш палавіны пунктаў, у якіх гэтыя батарэі размешчаны. Але ні адна назва не супадала з назвамі, што запісаны ў кнізе.**

**— Што ж вы зрабілі?**

**— Я перадаў тое, што было ў кнізе, як найбольш верагоднае.**

**— Хто адбіраў вашы сігналы. Толькі «Ф-7»? — спытаў Вольскі.**

**Качмарэк са здзіўленнем паглядзеў на яго і пацінуў плячыма.**

**— Ніхто не адбіраў. Радыёсігналы атрымаў аўтаматычны радыёпрыёмнік.**

**— Аўтаматычны? — афіцэры пагля дзелі адзін на аднаго.**

**— Так, — нерваваўся Качмарэк. — Апарат прымаў пасланыя мною імпульсы і найграваў іх на магнітафонную стужку. Альфрэд нічога пра гэта не гаварыў? Гэтыя ж стужкі ён даставаў адтуль. А, уласна, чаму ён не інфармаваў вас аб гэтым? — з падазронасцю спытаў шпіён.**

**— Відавочна, не хацеў, — невыразна адказаў Волькі.**

**— Я ўжо ведаю чаму! — усклікнуў Качмарэк. — Баяўся, нягоднік. Гэта ён узарваў радыёпрыёмнік.**

**— Можа, скажаце крыху ясней, — умяшаўся маўклівы Вага.**

**— Прыёмнік меў і міны, — растлумачыў Качмарэк, — Варта было перавярнуць прыёмнік уверх дном, а потым у ранейшае становішча, каб праз мінуту адбыўся выбух. Радыёпрыёмнік узрываўся ў выпадку адкручвання якой-небудзь нават дробнай часткі ці пры зняцці пласцінкі. Гэта ў выпадку пра-**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЕ ПРЫХОДЗЯЦЬ НА ДАКЛАДЫ

У Гайнаўскім павеце на вёсках праводзяцца лекцыі на вельмі цікавыя і карысныя тэмы, асабліва для жанчын. Прыязджаюць лектары з дакладамі аб гадоўлі цялят, курэй, свіней, аб вырошчванні ільну і гародніны, аб рацыянальным харчаванні і г.д. Не знаю, як гэта праходзіць у іншых вёсках, але ў нас у Скупаве з гэтым вельмі дрэнна. Не прыходзяць жанчыны на гэтыя лекцыі і не стараюцца пашыраць сваіх ведаў. Тлумачацца недахопам часу. Але калі ў вёску прыедзе кінаперасоўка, дык тады час у жанчын знаходзіцца. На фільм збіраецца столькі людзей, што аж сцены трашчаць у памяшканні.

**Валя Анцэвіч**
Скупава

## ГРН У ЗАЛЕССІ

У склад грамады Залессе (Сакольшчына) уваходзіць 14 вёсак. У дзесяці з гэтых вёсак паспяхова працуюць сельскагаспадарчыя гурткі. І вось дзякуючы гэтым гурткам у ГРН Залессе няма аблогаў. Уся зямля з дзяржаўнага фонду зямлі загаспадараваная. Дасягнута гэта галоўным чынам таму, што тут існуе добрае супрацоўніцтва праўленняў сельгасгурткоў з грамадскай радай нарадовай, якую ўзначальвае Эдуард Шмучык. Аб ГРН у Залессі можна сказаць і тое, што вялікую ўвагу звяртае на кантрактацыю сельскагаспадарчых культур. І план кантрактацыі ў Залессі даўно ўжо выкананы.

**А. С.**
Залессе

## ВЁСКА БЕЗ ПЛАТОЎ

Да вясны рыхтуюцца людзі. Упрыгожваюць свае хаты, сялібы, рыхтуюцца да пасеваў, да новых прац. Многія гаспадары наводзяць парадак у сялібах, наладжваюць арагоджы. Неяк толькі ў Белках, якія налічваюць 64 дамы, не адчуваецца клопатаў аб тым, каб прыгажэй было на панадворку, у вёсцы. Там мала ў каго ёсць плот, а калі ёсць, дык развалены, паламаны, брыдкі. Хутка пойдуць каровы і авечкі на пашу. Яны будуць забягаць у гароды і нішчыць гародніну.

Не было б дзіўна, калі б Белкі знаходзіліся ў глыбокім бязлесным заполлі. Але ж Белкі маюць свой лес, маюць адкуль узяць матэрыял на платы, на агароджу. Не маюць толькі пачуцця парадку і прыгажосці.

**Ярош**
Гайнаўскі павет

## КУРС ТРАКТАРЫСТАЎ

Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску-Падляшскім арганізавала нядаўна 4-месячны курс трактарыстаў. Курсы адбываюцца ў ПОМ-ах у Бельску і Боцьках. Вучыцца там 80 асоб. На занятках навучэнцы знаёмяцца з будовай трактара, яго матору, з будовай сельскагаспадарчых машын, з правіламі дарожнага руху і г.д.

**П. Зінкевіч**




«Дарагое Сэрцайка!
Жыву на вёсцы. Хаджу ў VIII клас пачатковай школы. Прашу цябе, Сэрцайка, напішы мне, ці ў гэтым годзе будуць прымаць у гастранамічную школу ў Беластоку. А калі так, дык падай мне яе адрас, тэрмін складання заяў і па якіх прадметах будуць экзамены», — піша Оля Е. з Сакольскага павета.

І другі ліст:

«Маю 16 год. Хаджу ў восьмы клас пачатковай школы. Хачу вучыцца ў гастранамічнай школе ў Беластоку. Паінфармуй мяне аб тэрміне складання заяў і прадметах, па якіх трэба здаваць экзамены». Ніна з Б. Бельскі павет».

У Беластоку ёсць 4-гадовы гастранамічны тэхнікум і 2-гадовая гастранамічная школа. У гэтым годзе будзе набор у гэтыя школы, і ўжо можна складаць заявы з усімі дакументамі (як і ў іншыя школы). Пасля толькі далучаецца пасведчанне аб заканчэнні пачатковай школы (бо яшчэ вы вучыцеся). Аб экзаменах вас паведаміць школа, калі вы ўжо зложыце дакументы.

У 4-гадовым тэхнікуме экзамены па польскай мове, арыфметыцы і хіміі, а ў 2-гадовай засаднічай гастранамічнай школе экзамены па польскай мове і матэматыцы.

Адрас школы:
**Technikum Gospodarcze, Białystok, ul. Proletariacka 8.**

Адрас тых школ адзін, аднак заяву трэба кіраваць у такую школу, якую вы выбіраеце, г. зн. ці ў тэхнікум ці ў засаднічую.

Жадаю поспехаў на экзаменах
Сэрцайка

## ГАРЦЭРЫ З ПЕДЛІЦЭЯ



**Выступае з прамовай Яфім Гіжэўскі.**

Старэйшагарцэрскія дружыны і інструктары Гуфца ЗГП у Бельску-Падляшскім утрымоўваюць сталыя кантакты з малодшагарцэрскімі дружынамі на вёсках, з якімі праводзяць цікавыя мерапрыемствы.

Нядаўна старэйшагарцэрская дружына з Педагагічнага ліцэя ў Бельску арганізавала ў Пасынках спатканне са старым дзеячом ППР-у Яфімам Гіжэўскім. У гэтым спатканні ўзяло ўдзел больш 200 чалавек — жыхараў Пасынак. Яфім Гіжэўскі расказаў прысутным аб першых арганізацыях ППР-у на Бельшчыне і аб іх ролі ў станаўленні народнай улады.

Пасля адбылося выступленне гарцэрскага аматарскага калектыву з Педагагічнага ліцэя.

Тэкст і фота
**Яўгень Зіневіч**



**Гарцэрскі квартэт з Педагагічнага ліцэя. Заняў ён першае месца ў Павятовым конкурсе на выкананне савецкіх песень.**

## НІШЧАЦЬ ЛЕС

Многа гаворыцца ў нас аб ахове прыроды, аб ахове дрэў, лесу. У гэтай галіне існуюць планы пасадкі лесу, планы пасадак дрэў абапал дарог. Жыхары нашай вёскі Крывяцічы (Бельскі павет) нават грамадскім чынам працавалі пры абсаджванні дарогі, якая вядзе ў Орлю. Рабілі гэта з думкай, што будзе прыгажэй на дарозе і што будзе тут прыгажэйшы краявід.

У сувязі з гэтым хочацца выказаць думку аб тым, што нашыя людзі садзяць дрэвы і адначасова нішчаць іх. Хачу я сказаць пра лес, які ёсць каля нашай вёскі і які ўжо амаль знішчаны. Ніхто ў вёсцы не разумее і не хоча зразумець, што нішчэнне агульнавясковага лесу, які займае каля 400 гектараў, з'яўляецца варварствам. Прыкладам масавага нішчэння з'яўляюцца дні перад калядамі, калі жыхары Крывяціч і (не толькі Крывяціч) высякаюць ёлкі. Толькі ў гэтым годзе вырублена ў лесе больш 400 ёлак. І гэта адбываецца штогод. Які сум агортвае чалавека, які любіць прыроду, лес і які бачыць масава вынішчаны маладняк. І вельмі шкада, што на гэтую справу зусім не звяртае ўвагі партыйная арганізацыя вёскі, што не цікавяцца гэтым і іншыя арганізацыі.

Колец з Бельшчыны

## ЗАНІЖАЕЦЦА % ТЛУШЧУ МАЛАКА.

У нашай вёсцы Райску няма парадку ў злеўні малака. Малачарка, так называюць у нас працаўніцу, якая прымае малако, заніжае працэнты тлустасці малака, а Аляксандру Хаманюку нават не дапісала 10 літраў. З-за несаліднасці і несумленнасці малачаркі Аляксандр Крупіцкі зусім перастаў прыносіць малако. З пробамі тлустасці малака Дзям'ян Барыцкі, Базыль Хаманюк і Антаніна Артэмюк моцна паспрачаліся з малачаркай і даказалі ёй, што яна значна абніжае працэнт тлушчу. Малачарка крыўдзіць людзей, і таму не павінна яна працаваць. Гэтай справай акруговая малачарня ў Бельску павінна зацікавіцца і пакараць малачарку з Райска.

Вася з Райска

валу. Тры кілаграмы трынітратлену, — дадаў ён абыякава.

— Ну добра, — сказаў Вольскі. — А цяпер раскажыце нам пра кантакты «Ф-7» у Шчэціне. Вы там ведалі каго-небудзь?

Качмарэк здзіўлена паглядзеў на Вольскага.

— Нічога пра гэта не ведаю, — адказаў ён.

Усталявалася мінутная цішыня. Яе парушыў Вольскі.

— У вас ёсць якія-небудзь пытанні? — спытаў ён у паручыка Вагі.

— Не, усё зразумела.

— На гэты раз хопіць, — задуменна сказаў Вольскі. — Скажыце толькі, навошта вы карысталіся апаратам? Ці не прасцей было непасрэдна перадаваць гэтаму «Ф-7» сабраную вамі інфармацыю?

Шпіён усміхнуўся.

— Не вельмі, — пачаў ён тлумачыць, — мы былі падрыхтаваны да таго, што інфармацыю я буду перадаваць па меры збору. Нельга было разлічваць на тое, што такія даныя, як у той кнізе, трапяць мне адразу ў рукі.

Канваіры вывелі шпіёна.

— Толькі цяпер пачнецца гарачка, — задуменна прамовіў Вольскі.

— Як так?

— Вы забыліся пра шпіёнскую сетку ў Шчэціне.

— Такая ўжо наша служба, — пафіласофску зазначыў Вага. — У мяне яшчэ адно пытанне. — Якім чынам вы прыйшлі да заключэння, што шпіён знаходзіцца сярод слухачоў курсаў афіцэраў запасу?

— Гэта былі толькі меркаванні. Наш працаўнік зрабіў некалькі невялікіх на першы погляд, памылак, не ўяўляючы сабе іх вынікі. А выглядала гэта так. Я даведаўся аб перакідцы агента праз граніцу з мэтай выканання нейкага задання ў Панятове. Перш за ўсё я азнаёміўся з дакументамі аб воінскіх часцях, якія дыслацыраваліся там. І што аказалася? Заняткі курсаў, у адпаведнасці з загадам, павінны былі пачацца 4 сакавіка, шпіёна таксама перакінулі 4 сакавіка...

— Вельмі слабая аснова, — скептычна ўстанавіў Вага.

— Не зусім, — запярэчыў Вольскі. — Шпіёна перакінулі праз граніцу, абыходзячы легальныя магчымасці ўезду ў краіну. Гэта значыць, што яны спяшаліся, паспешлівасць адыграла тут асноўную ролю.

— Як быццам так, — асцярожна згадзіўся Вага.

— Шпіён прыбывае ў Панятова, каб сабраць звесткі, што цікавяць яго. Што ён робіць? Стараецца прабрацца ў падраздзяленне? Бадай, не. Пасля доўгіх старанняў ён знаходзіць кватэру, уладкоўваецца на работу і цяпер можа пачаць шпіёнскую дзейнасць А мы ўжо гаварылі, што галоўная прычына перакідкі агента была паспешлівасць. Адсюль які вывад?

— Што тут дзейнічаў ужо другі агент, — падказаў Вага.

— Так і я думаў, — сказаў Вольскі. — Павінен дадаць, што адной з прычын, якая прывяла да дэмаскіроўкі агентаў, была... нямецкая педантычнасць.

Вага запытальна паглядзеў на яго.

— Мы абдумалі план дзеянняў вельмі падрабязна, — працягваў Вольскі. — Мы вырашылі, што ім нельга траціць ніводнага дня, таму перакідка была ажыццёўлена дакладна ў дзень пачатку заняткаў. Калі б перакідка была зроблена раней ці пазней, мы да гэтага ніколі б не дадумаліся б! Ва ўсякім разе, многа давялося б папрацаваць, пакуль мы прыйшлі б да такога адкрыцця. Разумееце? Вага кіўнуў галавой. Афіцэры пераглянуліся і ад душы расмяяліся... **КАНЕЦ**

# КІНО

**Праграма на 28.III. — 2.IV.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„W krainie dziwnych zwierząt'' (radz.), 28—29. III.; „Dzielnica kruków'' szwedzki, 30—31. III.; „Głosuję na miłość'' (jugosłowiański), 1—2. IV.

**Кляшчэлі**
„Zwyczajny faszyzm'' (radz.), 28—29. III.; „Hamida'' (NRD), 30—31. III.; „Arcylokaj'' (franc.), 1—2. IV.

**Дубіны**
„Winnetou'' (NRF) I i II s. 1—2. IV.

**Нараўка**
„Dni grozy i śmiechu'' (USA), „Kraksa'' (radz.), 29.III. 2.IV.

**Нарва**
„Trzy kroki po ziemi'' (pol.), „Spacer po linie'' (angl.), 29.III. —2.IV.

**Чыжы**
„Nieznany'' (polski), „Nikt śmiać się nie będzie'' 29.III. — 2.IV.

**Дубічы Царкоўныя**
„Przybycie tytanów'' (włoski), „Zdradzona ziemia'' (radz.), 29. III.—2.IV.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Samson'' (polski), „Sklep przy głównej ulicy'' (czeski), 29.III.—2.IV.

**Орля**
„Cisza, na sali operacja!'' (radz.), „Dzwonić Nortside 777'' (USA), 29.III—2.IV.

**Райск**
„Dwadzieścia godzin'' (węgierski). „Elektra'' (franc.), 29. III.—2.IV.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Grek Zorba'' (USA), 28—29.; „Głosuję na miłość'' (jugosł.), 30—31.III.

**Міхалова**
„Kiermasz'' (NRF), 28—29.III. „Kozacy'' (radz.), 30—31.III.; „Cierpkie głogi'' (polski), 1—2.IV.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przygody Mauchausena'' (czeski), 28—29.III.; „Męski piknik'' (jugosł.), 30—31.III.; „Ktokolwiek wie'' (polski), 1—2.IV.

**Шудзялава**
„Pierwszy dzień mego syna'' (czeski), „Szkarłatne godło odwagi'' (USA), 29.III.—2.IV.

**Сідра**
„Cyrk jedzie'' (USA), 28—29.III „Wyrok'' (polski), 30—31.III. „Śmierć Belli'' (franc.), 1—2.IV.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Zerwany most'' (polski), „Towarzysze podróży'' (radz.), 29.III. —1.IV.

**Новы Двор**
„Dzielnica szczęścia'' (rumuński), „Pieczone gołąbki'' (polski), 1—2.IV.

**Ліпск**
„Operacja Y'' (radz.), „Ojciec żołnierza'' (radz.), 1—2.IV.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.963 Błtk M-3

Сакавік смакавітым, вясным ветрыкам пахне, аж мой Кастусь з радасці зачыхаўся.

Пачаўся кацячы карнавал. Начамі каты на горах танцуюць пад канцэртную музыку. А перад кацячай аўдыторыяй выступаюць лепшыя спевуны. Выконваюць яны свае арыі з такім опустам, што мой Кастусь апоўначы зрываецца з ложка, хапае ў рукі што пападзе, мятлу, ці валкаўніцу і з крыкам ганяецца па гарэ, пакуль добрага сіняка на лобе не натаўчэ.

Раней устае працавітае сонейка.

— Вясна ранняя будзе! — крычаць цэлаю чарадою верабʼі.

Прыляцелі шпакі і кожны разглядаецца, дзе знайсці добрую, новенькую шпакоўню...

Нават людзі ў Валілах гавораць, што вясна зіму напаіла...

Вышаў Пецька Грыцук з хаты ў адным летнічку. Апёрся на вілах і разглядаецца, ці не плыве дзе ў лужы яго брамачка, якую вясковыя лодыры схавалі на «багаты вечар». Стаіць чалавек, думае і бядуе:

— Хоць ты завешвай жончынаю спадніцай.

Бо хоць да лесу блізка, але дарога слізка. І часта чуваць па людзях, што

# ПОШУКІ

хто пападзе, таго судзяць. І ніхто яшчэ на кражы лесу не зрабіў добрага інтарэсу.

Але, што ж, добры людзі? Хто мае на галаве біду, таму трудна адагнацца ад чорных думкаў...

Шукае чалавек, а не ведае, што побач яго штаб зялёных гарцэраў, які мае такіх спрытных разведчыкаў, што нічога перад імі не схаваецца. І мо' нейкага дня з ночы брамачка зноў апыніцца на сваіх завесах...

Грыцук у Валілах шукае брамкі. А Свалачэня з Навасад разглядаецца, каб дзе знайсці з добрым пасагам трэцюю жонку. Узяў прыгожую дзяўчыну, але, маўляў той, пастрыкаліся за пярыну. А каб былі зрабілі згоду, то не дайшло б да разводу.

Пачаў жыць на паўэтату з ўдавою. Кабетка міла... Таксама не дагадзіла. Цяпер ідуць пагалоскі, што мо апутае трэцюю, з другой вёскі...

Свалачэня шукае 3-е жонкі. А Колік Пусцялёў прыехаў з Беластока да Шымкаў шукаць да дзяцей адукаванай нянькі з дэфэрэнцыямі. Настроілі яму людзі бабку Настуху. А ён зараз пытае яе, каб паказала пасведку колькі кончыла школы. А бабка Настуха толькі застагнала і сказала:

— Эх, саколіку, саколіку! За маіх часоў зусім не было ніякіх клясаў для нашых масаў. А ты сам у мінулую зімку прыязджаў да нас рабіць 7 клясу. А пільсёвы капялюш на галаве — то зусім яшчэ не сведчыць аб высокай адукацыі.

Ну-й праўду сказала бабуля!

Цётка Мальвіна

# НІЎКА



## АДПАЧЫЎ

Адзін хлопец пытаецца ў другога:

— Як ты правёў свой адпачынак?

— Першыя тры тыдні замочваў яго.

— А астатнія?

— А астатнія адбываў пятнаццаць сутак.

## НА ХВІЛІНКУ

Перад святам гарадавы заўважыў нейкага дзіўнага чалавека, які ад раніцы да вечара стаяў перад магазінам модняга адзення.

— Хто вы такі? — падазрона спытаў гарадавы.

— Я спакойны чалавек.

— Дык чаго стаіце цэлы дзень каля магазіна?

— Чакаю жонку. Зайшла на хвілінку па капялюш...



## У СУДЗЕ

Суддзя: — Ці ведаеш, што гусі дрэнна красці?

Злодзей: — Але, ведаю, пане суддзя! Яны вельмі крычаць.

## ДАЙШЛО

Брыгадзір ушчувае п'яніцу:

— Сямён, проста не ведаю, што мне з табою рабіць! Заўчора ты на заручынах гуляў, учора пахмяляўся ўвесь дзень, сёння зранку таксама ледзь на нагах стаіш. Ты пастаў сябе на маё месца, а мяне на сваё, што б ты зрабіў?

— Я з такой свіннёю і размаўляць не стаў бы.

## ХАЙ БУДЗЕ ТАК!

Вучань: — Сем памножым на дзевяць будзе шэсцьдзесят тры. Шэсць пішам, тры запамінаем.

Настаўнік: — Садзіся, пяць. Два пішам, тры запамінаем.

## ЗДЗІВІЎСЯ

Ідзе п'яны па пустыні. Насустрач караван.

— Гэй, хлопцы! Скажыце, далёка яшчэ да мора?

— Ды прыкладна кіламетраў пяцьсот.

— Глядзі ты, які пляж адгрукалі, чэрці!



# АПАЛОНІКА

**Калі драпежнік здымае рукавічку, трэба асцерагацца, бо, падаючы руку, можа скалечыць.**

✲

**Кожная складанасць, калі яе добра разгледзіш, робіцца справай простай.**

✲

**Чалавек, які ашуквае і ілжэ, сам на сябе пятлю накладвае.**

✲

**Заўсёды ў жыцці бывае не так, як чалавек хоча, але так, як выходзіць.**

✲

**Ноччу танцуючых ценяў не відаць.**

## У ФЕЛЬЧАРА

— Вось, цётка, будзеш даваць гэтае лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.

— А Божа мой! Дзе ж я вазьму столькі лыжак. У мяне іх толькі чатыры.

## РАДАСЦЬ ПЛЯМЕННІЦЫ

Дзядзька Халімон, які вельмі часта прыходзіў у госці да свайго брата Ахрэма, запытаў аднойчы ў пляменніцы:

— Ты рада, што я да вас у госці прыходжу?

— Рада! Вельмі рада! Кожны раз, як ты прыходзіш да нас, мне мама дае на марожанае, каб я не пытала, чаму ў цябе такі чырвоны нос.

## «НЯСМАЧНЫЯ ЦУКЕРКІ»

— Вова, ты пакінь некалькі цукерак сваёй сястрычцы.

— Мама, яны нясмачныя. Я лепш іх сам з'ем.

## СВАЯЧКА

— Гэта дама вам сваячка?

—Так, але далёкая. Нас было шаснаццаць у бацькоў, дык я быў першы, а яна апошняя.



**Песні па заяўках**

Па просьбе Ніны Мікалаюк з Фальваркаў, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.

# РОМАШКА МОЯ

Не для тебя ли в садах наших вишни
Рано так начали зреть?
Рано веселые звездочки вышли,
Что б на тебя посмотреть.

Если б гармошка умела
Все говорить не тая!..
Русая девушка в кофточке белой,
Где ты, ромашка моя?

Птицы тебя всюду песней встречают,
Ждет ветерок у окна.
Ночью дорогу тебе освещает,
Выйдя навстречу, луна.

Если б гармошка умела
Все говорить не тая!..
Русая девушка в кофточке белой,
Где ты, ромашка моя?

Я не могу быть с тобою в разлуке
Даже пятнадцать минут,
Ведь о тебе все гармони в округе
Лучшие песни поют.

Если б гармошка умела
Все говорить не тая!..
Русая девушка в кофточке белой,
Где ты, ромашка моя?

# КУРЁЗЫ

## Новае амерыканскае «відовішча»

Вечарам, пасля абеду, замест таго, каб уключыць тэлевізар ці пачытаць кнігу, многія амерыканцы бяруцца за біноклі. Працираюць шкельцы, размяшчаюцца каля вокан і пачынаюць наглядаць, што робіцца ў суседзяў. «Гэта, — заўважыў адзін вашынгтонец, — як у дзяцінстве, калі хочацца стаць невідзімкай». Вельмі цікавая логіка! Наконт гэтага «відовішча» доктар Франк Капрыё з Вашынгтона сумна заўважыў: «Шчаслівыя людзі не будуць цікавіцца тым, як жывуць суседзі. Да таго ж — гэта самая сапраўдная непрыстойнасць».



## Ратуючы сваё жыццё

Трэнер мясцовага прафесійнага футбольнага клуба Рамірэс Пачэка з іспанскага гарадка Віро нечакана заявіў, што «прысвяціць астатак жыцця ўтаймаванню львоў». Гэты занятак, на яго думку, — «больш спакойны і бяспечны, чым футбол». Пачэка вымушаны быў прыйсці да таго рашэння пасля таго, як натоўп аматараў, раз'юшаны трэцім запар пройгрышам любімай каманды, спрабаваў падпаліць яго дом, а самога трэнера лінчаваць.

## Насуперак забабонам

У Нью-Йорку заснавана новае таварыства пад назвай «Трынаццаць супраць забабонаў». Таварыства збіраецца на пасяджэнні 13 кожнага месяца, у пакоі № 13 на 13-ым паверсе аднаго з небаскробаў пад № 13. Мэта таварыства — скончыць з забабонамі ў Злучаных Штатах.




Не пажадай жонкі бліжняга свайго — яна можа застацца ў цябе назаўсёды.